*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 6 (153)* *9 - 15 лютага 1996 г.* *Кошт 1000 рублёў*

*МАРА ЛУКАШЭНКІ: БЕЗ СУДА І СЬЛЕДЗТВА* - ст. 3.

*"СВАЕ" СЯРОД СВАІХ* - ст. 4.

*ГАЗАЕЎ У РОЛІ ФУТБОЛЬНАГА ЗАЎГАЕВА* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.*

## АПРАСТАВАЛОСІЛІСЯ?

**У складанае становішча трапіла кіраўніцтва дзятлаўскага камбінату хлебапрадуктаў. Заключыўшы дамову з расейскай фірмай на пастаўку ў нашую вобласьць пяці тысячаў тонаў збожжа, дырэктар прадпрыемства трапіў у рэшце... пад сьледства.**

Высьветлілася, што фірма аказалася «ліпавай» і заплочаныя ёй два мільярды рублёў зьніклі бясьсьледна.

Літаральна днямі стала вядома, што гэтак жа апраставалосіліся і на гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні «Хваля». На пачатку лістапада завіталі сюды прадстаўнікі акцыянернага таварыства «Пелікан» з Растова-на-Доне. Маўляў, склады ў вас завалены таварам, а ў нас на яго попыт. Зразумела, што доўга ўгаворваць прадаўцоў не прыйшлося і назад «пеліканы» панесьлі ў клюве частку першай партыі аўтамагнітолаў ды радыёпрыёмнікаў, паабяцаўшы заплаціць пазьней.

І сапраўды, у хуткім часе прыйшла «плацёжка», пасьля чаго ў Растоў была адпраўленая і астатняя частка тавару (амаль на 75 мільёнаў у суме). І зноў на «Хвалю» з Расеі прыйшлі яшчэ два плацёжныя даручэньні. На аб'яднаньні паціралі ад задавальненьня рукі, але хутка іх давялося ламаць у роспачы. Ішоў час, а на рахунак прадпрыемства не паступіла ні рубля. Тым часам высьветлілася, што «Пелікана» у Растове больш няма... Як кажуць, прапаў без вясцей - ні мяса, ні касцей.

**Вітаўт РУДНІК**

## ДЗЕ ГРОШЫ АРЦЫМЕНІ?

**Знойдзеныя пасьля забойства былога старшыні аблвыканкаму сп. Арцымені ў яго службовым кабінеце грошы знаходзяцца да гэтага часу ў КДБ. Далейшы лёс іх пакуль невядомы, як невядома і тое, калі будуць пакараныя забойцы.**

Паводле атрыманых намі з афіцыйных крыніц зьвестак, сьледствам выяўлены канкрэтныя выканаўцы злачынства. Аднак забойцы працягваюць гуляць на волі. Больш таго, крымінальная справа зараз прыпыненая. Аказваецца, злачынцы знаходзяцца ў «іншай рэспубліцы» і невядомыя сілы(?) перашкаджаюць выезду туды супрацоўніка гарадзенскага КДБ для далейшага расьсьледаваньня справы.

Цікава, у якой гэта «іншай рэспубліцы» забойцаў ахоўваюць на дзяржаўным узроўні?

**Рудольф ЛЮТЫ.**

## ХТО ПЛАЦІЦЬ, ТОЙ ЗАКАЗВАЕ МУЗЫКУ І СЛОВЫ

**Не пасьпеў сьціхнуць розгалас эстраднага фестываля «Зорная ростань», як у горадзе адбыўся яшчэ адзін адметны канцэрт. Тым, хто хаця б крыху цікавіцца жыцьцём палітычна-эканамічнага бамонду краіны, добра знаёма Тамара Віньнікава - дама, набліжаная да асобы, імя якой страшна называць уголас.**

На гэты раз старшыня праўленьня ААБ «Беларусбанк» выступіла ў ролі фундатаркі двух дабрачынных канцэртаў з удзелам дзяржаўнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Двухгадзінная канцэртная праграма пад умоўнай назвай «Залаты шлягер» пакінула дваістыя ўражаньні. Маэстра Фінберг са сваімі музыкамі, як заўжды, быў на вышыні, але ўзроўню інструментальнай часткі вакальная адпавядала ледзь-ледзь. Прычынай таму пасрэднасьць бальшыні салістаў. Толькі напрыканцы Мікалай Скорыкаў, які вярнуўся нядаўна з Нямеччыны, ды Якаў Навуменка выявілі публіцы сапраўдныя магчымасьці голасу. Вядучая - «клаунэса» Ларыса Грыбалёва, -безумоўна, таленавітая дзяўчынка, але яна ніяк не стасавалася з сур'ёзным акадэмічным калектывам. Характэрна, што канцэпцыя праграмы прадугледжвала выключна расейскамоўныя песьні (сярод трыццаці твораў беларускаму слову месца не знайшлося). Атрымліваецца, што той, хто плаціць, заказвае ня толькі музыку.

У Францыі, напрыклад, існуе цэлая сістэма абмежаваньняў на англамоўныя песьні. У нас наадварот, мова карэннай нацыі ўсяляк дыскрымінуецца. У тым ліку, і на эстрадных пляцоўках. Беларуская маскультура ўсё больш уцягваецца ў арбіту інтарэсаў Масквы. Паказальна, што галоўным спонсарам той жа «Зорнай ростані» была расейская нафтавая кампанія з красамоўнай назвай «Лукойл-Белоруссия». Неаднаразова падкрэсьлівалася, што азначаны фестываль - гэта толькі прыступка да віцебскага «Славянскага базару». Заўважым, найбольш заідэалягізаванага песеннага шоў на прасторах былой «необъятной». Некаторыя айчынныя прадзюсеры актыўна памкнуліся туды, дзе запахла нафтадоларамі. А прастадушныя беларускі слухач гатовы праглынуць любую цукерку ў прыгожай абгортцы.

**Ладзік МАЙНІЧ.**

## ВАЯЖ ПА НАЛЬШАНСКАМУ КРАЮ

**6-7 лютага старшыня аблвыканкаму Аляксандр Дубко наведаў гістарычную Нальшаншчыну - сучасныя Астравецкі, Ашмянскі і Смаргонскі раёны.**

Тут ён браў удзел у нарадах па падвядзеньні вынікаў працы сельскай гаспадаркі ў 1995 годзе. Менавіта гэтыя раёны часьцей за іншыя крытыкаваліся старшынём абласной «вертыкалі» на нядаўняй нарадзе ў аблвыканкаме з кіраўнікамі дзяржпрадпрыемстваў. Крытыкаваць было за што. Дапрыкладу, продаж малака на Астравеччыне зьменшыўся на 67 працэнтаў, на Ашмяншчыне - на 46 працэнтаў. Ня выключана, што ў хуткім часе ў гэтых раёнах адбудуцца кадравыя зьмены.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ЧЫНОЎНІКАЎ СТАЛА МЕНШ

**З першага лютага іншае месца працы вымушаны шукаць 77 чыноўнікаў з аблвыканкаму, «скарочаных» паводле ўказу Лукашэнкі ад 15 студзеня гэтага году.**

Найбольшае скарачэньне адбылося ў камітэце па сельскай гаспадарцы і гандлі - 20 чалавек. Агульная колькасьць чыноўнікаў аблвыканкаму складае сёньня 543 чалавекі.

**В.ДРЭМА.**

## КАЛІ Ў АДНЫМ МЕСЦЫ УБАВІЦЦА, ТО Ў ДРУГІМ...

У сувязі з ліквідацыяй Ашмянскага гарадзкога Савету, гарвыканкаму і іх ворганаў, і неабходнасьцю вырашэньня пытаньняў, якімі яны раней займаліся, раённы выканаўчы камітэт утварыў аддзел гарадзкой гаспадаркі райвыканкаму. Некаторым чыноўнікам не давялося і кабінетаў мяняць.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

## ВЯРТАНЬНЕ НА РАДЗІМУ

**Гісторыка-культурны клуб «Паходня» на апошнім паседжаньні наладзіў прэзэнтацыю факсімільнага выданьня вершаў Ларысы Геніюш. Высілкамі слонімскіх краязнаўцаў, найперш Сяргея Чыгрына, праз 53 гады сьвет убачыў пражскі зборнік паэткі «Ад родных ніў». Літаратурная вечарына з гэтай нагоды сабрала ў гарадзкім доме культуры рупліўцаў, што шчыруюць на беларускай ніве, старых сяброў-паходняўцаў.**

У віхуры бязладнасьці, палітычных спрэчак мы часьцяком губляем спагаду, робімся раздражнёнымі і ваяўнічымі. У гэтым сэньсе Геніюш ніколі ня несла негатыву, яна нязьменна захоўвала пачуцьцё гонару за свой народ, як сапраўдная хрысьцінка-пакутніца не наракала на жорсткі лёс, а дарыла ўсім цяпло свайго шчодрага сэрца. Яе хата заўсёды была прытулкам для ўсіх, хто прагнуў «людзьмі звацца» -менавіта ў Зэльве многія адкрылі для сябе Беларусь. У асобе Геніюш было неверагодна многа боскага, а яе вершы нараджаліся самі сабой, былі, як дыханьне.

Сваімі ўспамінамі падзяліліся прафесар Аляксей Пяткевіч, паэтка Данута Бічэль-Загнетава. Юрка Голуб, які ў сярэдзіне 60-х меў з Геніюш сталае ліставаньне, зачытаў радкі невядомых твораў (неўзабаве, яны будуць надрукаваны ў часопісе «Полымя»). Дзяўчаты дэкламавалі вершы, хор «Бацькаўшчына» выконваў сьвецкія і рэлігійныя гімны.

Перавыданьне зборніка «Ад родных ніў» сталася магчымым дзякуючы малому прадпрыемству «Альгерд», якое ахвяравала паўтары тысячы долараў. Кнігу можна набыць у музеі Максіма Багдановіча ў Горадні.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## СКАШТУЕМ МАЖЭЙКАЎСКАЙ ГАРЭЛКІ

У Мажэйкаве Лідзкага раёну ўстаноўлена і пачала праходзіць выпрабаваньні нямецкая лінія па разьліву гарэлкі. Адкрыцьцё гарэлачнага завода плануецца на другую палову 1996 году. Зараз у Беларусі ўжо дзейнічае больш 50 заводаў па выпуску моцных напояў супраць пяці ў 1985 годзе. Летась казна атрымала ад рэалізацыі іх прадукцыі 1,8 трыльёна рублёў, або 10 працэнтаў даходнай часткі рэспубліканскага бюджэту.

## АДКУЛЬ БЫЦЬ ПРЫБЫТКАМ?

**На трыццаць чатыры мільярды рублёў недавыкананы план гарадзкога бюджэту па прыбытках за мінулы год. Гэта 12,4 працэнта ад усіх паступленьняў.**

Прычына відавочная - большасьць прадпрыемстваў горада знаходзіцца ў глыбокім крызісе. Так, на заводзе зборнага жалезабетону вытворчасьць скарацілася на 61 працэнт, у «Гроднаабутку» - на 72 працэнты. Дык адкуль жа быць прыбыткам?

**Р.ВЕРАС.**

## КАХАНЬНЕ НЕ ЦІКАВІЦЦА ЗАКОНАМІ

Па закону, каб уступіць у шлюб трэба пражыць ня менш як 18 гадоў, але ня ўсе вытрымліваюць гэты тэрмін. Так, у Іўеўскім раёне за 1995 год у шлюб з дазволу райвыканкаму ўступілі 13 дзяўчат і адзін хлопец, якія не дасягнулі вызначанага тэрміну. Пры гэтым, адной дзяўчыне было ўсяго 16 гадоў і 4 месяцы.

**Станіслаў ВОЙНА**

## ПЛАНАВА-СТРАТНЫ ТРАЛЕЙБУС

**Нягледзячы на чарговае павышэньне да 1000 рублёў кошту за праезд у гарадзкім транспарце, пасажырскія перавозкі ў Горадні застаюцца стратнымі.**

Як паведамілі нам у тралейбусным упраўленьні, сёньня кошт квітка пакрывае менш паловы выдаткаў на перавозку аднаго пасажыра.

Страты кампенсуюцца з дзяржаўнага бюджэту. Па разьліках эканамістаў упраўленьня рэальны кошт квітка на гэты момант складае 2400 рублёў.

**В.ДРЭМА.**

## ПАХАВАЛЬНАЯ КАНТОРА НА САВЕЦКАЙ ПЛОШЧЫ

**Калісьці, каля Фарнага касьцёла, ля ягонай сьцяны, што выходзіць на сучасную вуліцу К.Маркса, існавала крама Левандоўскага. У ёй можна было набыць культавыя прадметы, неабходныя верніку ў яго зямным жыцьці, і ўсё для рытуальных паслуг, каб адправіць нябожчыка ў іншы сьвет. Такая крама побач з касьцёлам выглядала зусім натуральна.**

За мінулы год насельніцтва Беларусі паменшылася амаль на 30 тысяч чалавек. Людзей памірае ўсё больш і больш, няма грошай на нармальнае сьціплае харчаваньне... Звычайныя лекі сталі недаступнымі, дапякаюць стрэсы і абыякавыя адносіны акружэньня.

А тым часам зьдзяйсьняецца лозунг савецкіх часоў: паслугі бліжэй да насельніцтва.

У самым цэнтры Горадні, на плошчы Савецкай ля крамы «Адзеньне», разьвешаны на шапіках і прадаюцца жалобныя вянкі для нябожчыкаў, прывезеныя з-за мяжы. Вянкі сапраўды пекныя, з кветкамі розных колераў, са стужкамі. Памірайце, калі ласка, мы дапаможам упрыгожыць вам апошні шлях і вечны прытулак. Вяночкі гэтыя каштуюць ад 100 да 250 тысяч рублёў.

Што ж, бізнэс ёсьць бізнэс, нават калі ён робіцца на чужой бядзе. Але падаецца, што цэнтральная частка самай галоўнай плошчы - гэта ня месца для продажу такога тавару. Такі, мякка кажучы, ненавязьлівы сэрвіс вельмі нагадвае Ільфа і Пятрова: «Пахавальныя кантора «Міласьці просім».

**Людвік САРОКА.**

## СЫТАЕ БРУХА ДА НАВУКІ ГЛУХА?

Сьнежны компавышэньня цэнаў, выкліканы пастановай Кабінету Міністраў аб павышэньні мінімальнай заробнай платы, дакаціўся і да адукацыі.

Згодна з загадам рэктара Гарадзенскага ўніверсітэту з мэтай пакрыцьця выдаткаў на падрыхтоўку студэнтаў, якія навучаюцца на дагаворнай аснове, устаноўлена даплата за навучаньне на гуманітарным факультэце. Так, грамадзяне Беларусі і беларусы з іншых краін, якія вывучаюць правазнаўства, міжнародныя эканамічныя адносіны, псіхалогію, замежную мову, інжынерныя сьпецыяльнасьці на дзённай форме навучаньня павінны даплаціць да 1 сакавіка па 300 тысячаў.

Іншаземцы павінны даплаціць суму, у два разы большую за ўстаноўленую на пачатку вучэбнага году плату. Да гэтага часу год навучаньня на гуманітарным факультэце па азначаных вышэй сьпецыяльнасьцях каштаваў для беларусаў 4,5 мільёна, а для іншаземцаў - дзевяць мільёнаў.

**В.Д.**

# КАРАВАН ПАЙШОЎ, А САБАКІ ЎСЁ БРЭШУЦЬ

**Няўдача Беларускага Народнага Фронту на выбарах, ператварэньне яго з парламанцкай партыі ў партыю непарламанцкай апазыцыі, здаецца, павінны былі хоць у некаторай ступені прыпыніць цкаваньне БНФ і яго лідараў з боку дзяржаўных структур і афіцыйнай прэсы. Як мне падаецца, у прынцыпе гэта і адбылося. Але... на вольнае месца кінулася прэса, якая прэтэндуе на статус дэмакратычнай, у прыватнасьці газета «Свободные новости плюс». Карэспандэнт гэтай газеты Галіна Айзенштадт у артыкуле «Так кто «знішчае мову»?» (і ня толькі ў ім) з такім імпэтам накінулася на БНФ, што можна падумаць, быццам ёй далі пасаду пры Лукашэнку. Чым жа не дагадзіў спадарыні Айзенштадт Беларускі Народны Фронт?**

Пасьля няўдачы Фронту ў сутыкненьні з дзяржаўна-калгаснай машынай на выбарах, шмат хто чакаў развалу, расколу ці хаця б унутранага канфлікту ў БНФ. Чакалі разгубленасьці, хістаньняў, сьпешных рэформаў, зьмены лідараў і г.д. Але нічога гэтага не адбылося. Штогэта, нездольнасьць Фронту рэфармавацца, ці ўпэўненасьць і выверанасьць стратэгіі і тактыкі?

Безумоўна, Фронт улічвае памылкі, мяняе некаторыя прыярытэты, адыходзяць некаторыя прыхільнікі, але стрыжань стратэгіі і тактыкі, палітыкі і штодзённага жыцьця застаецца адзін і той жа. Гэта - нацыянальнае адраджэньне беларускага народу. І ўжо на гэты стрыжань нанізваецца ўсё астатняе: барацьба за рынкавыя пераўтварэньні, за суверэнітэт, за ўладу, за мову, за свабодную прэсу, нацыянальную школу... Гэты стрыжань не дае Фронту хіснуцца ні ўлева, ні ўправа.

Гэты стрыжань - аснова сілы Фронту. У ім асноўная небясьпека для ворагаў Беларушчыны. І менавіта ён выклікае асноўную масу нападак. Выбіць яго, зламаць і тады можна ўздыхнуць з палёгкай - Беларусі канец. І ня трэба будзе тады фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце арганізоўваць курсы беларускай мовы і ня трэба будзе шаноўнаму дэпутату сьляпіцца на старасьці год над падручнікам. І, дарэчы, пра дэпутатаў. Галіна Айзенштадт падае намер фракцыі камуністаў пайсьці на курсы беларускай мовы ледзь як ня новы крок да адраджэньня. Шаноўная спадарыня, для Беларусі амаль ўсё роўна: вывучыць Новікаў і яго паўсотня некалькі тысяч беларускіх словаў ці не, хаця лепш, калі вывучыць. Для Беларусі важна, каб яны забясьпечылі існаваньне, разьвіцьцё і пашырэньне мовы ў шырокіх слаях грамадства, каб яны сталі за беларускую школу, беларускі друк, беларускую культуру, каб Вярхоўны Савет захаваў дзяржаўнасьць беларускай мовы і дабіўся выкананьня Закону аб мовах у поўнай меры. Не за тое змагаецца Беларускі Народны Фронт, каб нейкая частка дэпутатаў «да канца дзейнасьці парламанту загаварыла па-беларуску», а за тое, каб вярнуць на Беларусь беларускамоўнае асяроддзе, каб вярнуць мову ўсім слаям насельніцтва. А найперш, каб усе мы незалежна ад нацыянальнасьці жылі ў багатай, цывілізаванай, дэмакратычнай краіне, дзе шануецца чалавек, дзе няма раздраю і хаосу.

Так, на Беларусі рыхтуецца міжнародная канферэнцыя «Дыскрымінацыя беларускай мовы на Беларусі», але рыхтуе яе Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Безумоўна, што Фронт прыме ўдзел у гэтай канферэнцыі, як безумоўна і тое, што на яе будуць запрошаны і камуністы з аграрыямі. І ніхто не зьбіраецца пры гэтым глядзець на іх пятую графу.

Ва ўмовах пазапарламанцкай апазіцыі Беларускі Народны Фронт вымушаны зьмяніць некаторыя прыярытэты. Не напрамкі, ня сьферы дзейнасьці, а толькі прыярытэты. Ёсьць два шляхі да поўнага самавыражэньня нацыі. Першы - стварэньне нацыянальнай дзяржавы і ў дзяржаўных формах разьвіцьцё нацыянальнай ідэялогіі і нацыянальнай самасьвядомасьці. Гэтым шляхам сёньня ідуць шмат якія краіны, напрыклад, Украіна ды амаль і ўсе астатнія краіны СНД. Гэтым шляхам ішоў Ізраіль. Гэта самы лёгкі шлях. Другі - разьвіцьцё нацыянальнай ідэялогіі, выхаваньне нацыянальнай самасьвядомасьці і на іх аснове стварэньне нацыянальнай дзяржавы. Гэта шлях Польшчы, Чэхіі, Курдыстана, шлях нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Для Беларусі воляй лёсу быў магчымы першы шлях. Але прыход да ўлады антынацыянальных сілаў паставіў існаваньне Беларускай Дзяржавы пад пагрозу. Ідзе адкрытае ўдушэньне эканомікі Беларусі, нацыянальнай ідэялогіі і нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў. Таму Беларускі Народны Фронт вымушаны рухацца другім шляхам. Ад нацыянальнай ідэялогіі і нацыянальнай самасьвядомасьці да нацыянальнай дзяржавы, бо нацыянальная дзяржава - гэта вышэйшая ступень самавыражэньня нацыі.

І можна было б толькі парадавацца за Беларусь, каб у нашым парламаньце сапраўды праявіліся нацыянальныя і дзяржаўніцкія настроі, якія так спрытна ўлавіла там Галіна Айзенштадт, і гэтыя настроі разьвіліся ў нацыянальную ідэялогію, якая пайшла б зьверху. Пры рабоце Фронту зьнізу гэта дало б хуткі і значны эфект. На жаль, парламанцкія настроі - гэта пакуль толькі настроі, калі яны ёсьць наогул, а праца па нацыянальным адраджэньні - гэта праца. І яе трэба рабіць. Фронт ніколі не манапалізаваў гэтую дзялянку, і калі перыядычна апынаецца на ёй у адзіноце, то гэта толькі таму, што памочнікаў проста няма, альбо яны недастаткова моцныя, каб весьці ўласную партыю. Гэтая сітуацыя на сёньня зразумелая і сябрам, і ворагам.

І калі адны становяцца ў яго шэрагі, а другія ствараюць для яго ўсялякія перашкоды, то трэцім застаецца толькі гаўкаць.

**Станіслаў СУДНІК.**

# МОЛАДЗЬ НЕ ДАМОВІЛАСЯ. НЕ ХАПІЛА ПІВА?

З 26 па 28 студзеня ў Менску адбыўся Усебеларускі Форум моладзі, які арганізавала Нацыянальная Рада. Тэарэтычную частку Форуму забясьпечыла Агенцтва гуманітарных тэхналогій начале з У.Мацевічам. У зьезьдзе ўзялі ўдзел больш сотні прадстаўнікоў маладзёжных арганізацый самых розных адценьняў, ці, як жартавалі самі ўдзельнікі, «ад Вазьняка да Пазьняка». Правінцыю прадстаўлялі Віцебск, Магілёў і Горадня (Асацыяцыя маладых навукоўцаў «ВІТ»).

На Форуме ўздымалася шмат пытаньняў аб будучым маладзёжнага руху на Беларусі, удзеле моладзі ў кіраваньні дзяржавай і распрацоўцы праграмы «Моладзь Беларусі». Але палітычныя амбіцыі не дазволілі прыйсьці дэлегатам да адзінай думкі. І сапраўды, цяжка ўявіць, каб будучыню Беларусі аднолькава бачылі прадстаўнікі Славянскага Сабору ды нацыянал-дэмакраты. Мабыць і таму не адбылося канструктыўнай размовы з супрацоўнікамі міністэрстваў, якія так ці іншакш займаюцца праблемамі моладзі - адукацыі, абароны, культуры і сацыяльнага забесьпячэньня.

У апошні дзень Форум павольна перайшоў на музычна-тусовачную хвалю, аздобленую гуртамі «Крама» і «Палац», а таксама дармовым півам, шчодра спансараваным арэндным прадпрыемствам «Крыніца».

І апошняе. На Форуме вельмі небагата было прадстаўнікоў рэгіёнаў, што, на мой погляд, становіцца дрэнняй традыцыяй. Маладыя грамадзкія лідары Горадні, дзе вы?

**А.ВРОНСКІ.**

# ЗАЯВА

## кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Днямі ў беларускай прэсе быў надрукаваны адкрыты ліст А.Р.Лукашэнкі Прэзідэнтам расейскай Федэрацыі і Украіны. У чарговы раз прэзідэнт Лукашэнка прадэманстраваў «лёгкасьць думкі надзвычайную». На працягу некалькіх невялікіх абзацаў ён пераходзіць ад канстатацыі наяўнасьці «славянскіх народаў» да ідэі «этнічнай (г.зн. народнай) цэласнасьці славян», робячы па ходу шэраг грубых гістарычных і палітычных памылак.

Прэзідэнт А.Лукашэнка ігнаруе той факт, што сукупнасьць эўрапейскіх славянскіх народаў значна шырэйшая за сукупнасьць «народаў Расеі, Украіны і Беларусі». Што насельніцтва пералічаных краін пераважна, але ня цалкам славянскае. Што славянскае насельніцтва Украіны і Беларусі пераважна, але ня цалкам праваслаўнае. А «гістарычнае адзінства» народаў гэтых краіне яе і «этнічная цэласнасьць славян» - ёсьць міт імперскай гісторыяграфіі, які выкарыстоўваўся для апраўданьня агрэсіўнай зьнешняй палітыкі царскай Расеі.

Асабліва цынічным выглядае той факт, што повадам для сваіх палітычна-гістарычных маніпуляцый прэзідэнт-бязбожнік, які неаднаразова заяўляў пра свае атэістычныя перакананьні, абраў выскародную ідэю Міжнароднага Фонду славянскага пісьменства і культуры, які на стыку межаў Беларусі, Украіны і Расеі ў 1994 г. устанавіў Крыж у імя славянскіх асьветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Даводзячы гэтую ідэю да абсурду, да сваёй супрацьлегласьці, ён прапануе прэзідэнтам суседніх краін ажыцьцявіць у гэтым месцы будаўніцтва праваслаўнага храма за дзяржаўныя сродкі, гаворачы аб «нашай адзінай праваслаўнай веры», на падставе рашэньня, якое «будзе ўзгоднена і прынята на самым высокім міждзяржаўным узроўні».

Прэзідэнт А.Лукашэнка забывае, што Канстытуцыі Расеі, Украіны і Беларусі абвясьцілі свае дзяржавы сьвецкімі і прызналі роўнасьць, незалежнасьці, і самастойнасьць усіх канфесій як хрысьціянскіх, так і нехрысьціянскіх, якія дзейнічаюць на іх тэрыторыях. У гэткай сітуацыі прапануемае «высокае рашэньне» ня можа ня стаць парушэньне Канстытуцый і адкрытым умяшальніцтвам у справы адной з рэлігійных канфесій. Такая падзея вядома ж не «стане сапраўды славянскай і сапраўды ўсенароднай».

У чарговы раз пасьля скандальнага прызнаньня ў сімпатыях да Гітлера А.Г.Лукашэнка зрабіў заяву, якая ня можа не абурыць любога грамадзяніна Беларусі. Яна сьведчыць аб укаранёнай у яго сьвядомасьці непавазе да закону і Канстытуцыі і гатоўнасьці ў любы момант яе парушыць. Яна сьведчыць таксама аб ягоным імкненьні і імкненьні яго акружэньня любымі сродкамі раскалоць наш народ па палітычных, моўных, нацыянальных ці веравызнаўчых прыхільнасьцях, распаліць варожасьць і парушыць грамадзянскі мір у краіне. Яго не спыняюць жахлівыя вынікі гэткай палітыкі, якія можна бачыць на прыкладах Чачні і Славянскай Югаславіі.

Мы спадзяемся, што ні «палітычныя партыі», ні дзяржаўныя дзеячы Расеі, Украіны і Беларусі не падтрымаюць гэтай «ініцыятывы» А.Лукашэнкі, як яны не падтрымлівалі ягоныя шматлікія ранейшыя ініцыятывы, за якімі не стаіць нічога, акрамя яго прыватнага палітычнага інтарэсу.

Народны Фронт супраць палітычных сьпекуляцый на такой далікатнай справе, як пачуцьці вернікаў.

# КВЕТКІ ДЛЯ КАСТУСЯ

Сябры Сьвіслацкай раённай арганізацыі БНФ «Адраджэньне» ушанавалі 2 лютага 158-я ўгодні з дня нараджэньня славутага сына Беларусі Кастуся Каліноўскага. Нарадзіўся кіраўнік вызваленчага паўстаньня 1863 году ў вёсцы Мастаўляны ля Сьвіслачы, вучыўся ў Сьвіслацкай гімназіі.

Сёньня ў гарадзкім пасёлку яго імя носяць школа, вуліца, ёсьць помнік, да якога ў дзень нараджэньня героя былі ўскладзеныя кветкі.

**Генадзь РАДЗЕЦКІ.**

# ГРОШЫ НЯ ПАХНУЦЬ?

У галоўнага прыдворнага мастака краіны Савіцкага знайшліся руплівыя пасьлядоўнікі. Гарадзенскія прафесійныя майстры пэндзля ў галерэі «Мадэрн-арт» прымаюць заказы на выраб любімага прэзідэнцкага герба. Нічога, што псеўдагістарычна, затое мадэрнова і «красіва». Кошт аднаго неагеральдычнага знаку складае ў пераразьліку прыблізна трыццаць срэбнікаў.

**Р.ВОСТРАШАБЕЛЬСКІ.**

# ЦЯПЕРЦЫ І ІХ МОДА

У кожнага свой шлях да Беларусі. Што датыкае мяне, дык я нацыянальна ўсьвядоміўся тады, калі спадзяваньні на незалежнасьць краіны, на дзяржаўнасьць мовы і, увогуле, на палітыку беларусізацыі выглядалі нават не ўтапічна, а скрайне крамольна. Здаецца, што гэта было яшчэ ўчора. І я бадай зусім ня веру ані ў якае адраджэньне (пра гэта ёсьць і ў маіх вершах). Ня веру і тады, калі пачаўся сякі-такі ўзрост беларускае справы. Стагнаньні нашых адраджэнцаў наконт маруднасьці руху мяне толькі раздражнялі. Я досыць упэўнена абраў дарогу безнадзейнасьці, кіруючыся максімай, кшталту, як у Дастаеўскага; калі я нават уведаю, што праўда не з Хрыстом, дык і тады лепш застануся з Хрыстом, чымся з праўдаю. Шлях максімаліста не для плебсу. І наадварот, як сказаў элінскі паэт-арыстакрат Феагнід, « у шляхетнага чалавека заўжды неадменнае сэрца».

Але мода на Беларушчыну скончылася. Сёньня, калі і не адмаўляюць нацыянальнае, дык стараюцца выстaвіць сваю безстароннасьць, уменьне «рэалістычна глядзець на рэчы». Мяне гэтыя мышыны перапалох не даймае. З тых даўніх часоў я не зьняверыўся, а ўпэўніўся ў слушнасьці абранага тропу. Разумныя палітолагі яшчэ тады цьвердзілі, што эйфарыя скончыцца. Палітычнае жыцьцё таксама мае прылівы і адлівы. І скрушвае мяне не агульнае становішча ў краіне, а буяньне плебейскай пароды. Прыкладам, звычка кусануць дарэчы і недарэчы Народны Фронт стала прываю асаблівага шыку, хто ня можа кусаць - той зьвягае. Зважайце, спадары, каб гэты шык ня стаў пшыкам!

Класікі марксізму часамі выказвалі праўдзівыя назіраньні. Дык вось, адзін з іх заўважыў, што ідэі пануючага класу, у той ці іншай ступені, становяць сабою ідэі ўсяго грамадзтва. Такой бяды, калі часамі ад моды ўладароў патыхае саўгасна-засьцянковым правінцыялізмам - хто наверсе, той і разумны. Але памянёны мною Феагнід пісаў: «... Не дзівіся, мой дружа, што грамадзянаў марнее парода. Плутас уладарыць: гэта ён шляхетных з мізэрнымі перамяшаў». Няхай радуюцца левакі, ведайма, што той,хто хоча заўтра прычыніцца да палітыкі, сёньня мусіць забыцца на лявацкую каньюнктуру. Праўвая рана ці позна возьмуць сваё, бо за імі грунтоўнасьць і вечныя каштоўнасьці. Варта зазначыць, што пад правымі я разумею не гарластых правадыроў таго ж плебсу, гэткія мяне не цікавяць...

Пра часовасьць сучасных айцоў каньюнктуры сьведчыць адна важная акалічнасьць: уважайма, з якім імпэтам яны рвуць і цягнуць пад сябе ўсё, што могуць. Не раўнуючы, як перад уласным канцом хлопцы сьпяшаюць, бо заўтра ня будзе ні позна ні рана. Заўтра для іх можа ня быць. З гэтай нагоды мне ўспамінаецца прыдуманае А.Разанавым слова /хоць я і не прыхільнік неалагізмаў/. Разанаў зьясьняе яго па-расейску як «властитель», але, здаецца, найлепш было б перакласьці «временщик». Цяперцы на тое і цяперцы, што ў іх няма ані прышласьці, ані прошласьці.

**Юрась ПАЦЮПА.**

# ГАРАДЗЕНСКІЯ ВЕТЭРАНЫ ПІШУЦЬ АДКАЗ СУВОРАВУ

Гарадзенскі клуб ветэранаў усіх войнаў і Узброеных сіл напрыканцы студзеня накіраваў на адрас Вярхоўнага Савету ліст з нагоды публікацыі ў «Народнай газэце» 19 студзеня артыкула Віктара СУВОРАВА «Почему Сталин отказался принимать Парад Победы?».

Ветэранаў абурыла, што на старонках воргана парламанту «изменник Родины» Сувораў асьмеліўся пад сумнеў паставіць сам факт перамогі ў Другой сусьветнай вайне і ролю ў ёй Сталіна. «Мы лічым - гавораць у лісьце - што такога нахабнага пасквіля на гераічную перамогу Савецкага народу не павінна было быць. Таму просім Вярхоўны Савет з нагоды гэтага артыкулу зрабіць адпаведную заяву».

**В.ВЕРАС.**





## «ОЧИЩЕНИЕ» НЕ ПРОВЕРЯЕТ ФАКТЫ»

**Не шанцуе з пачатку году гарадзенскім «ачышчэнцам». То працоўны калектыў унівэрсітэту не падтрымае антырэктарскія красамоўныя опусы, то суд абавяжа прынесьці прабачэньні за абразу годнасьці і гонару адказнай асобы.**

17 лістапада 1994 году на гарадзенскім тэлебачаньні выйшла ў эфір перадача «Очищение» проверяет факты». Ініцыятарамі і асноўнымі яе ўдзельнікамі былі сябры «Очищения» - арганізацыі , створанай на хвалі моды на «чэмаданы кампраматаў» у часе перадвыбарчай кампаніі Аляксандра Лукашэнкі. «Правяраючы факты», «ачышчэнцы» пад час перадачы ўзгадалі і прозьвішча намесьніка старшыні аблвыканкаму і дэпутата Вярхоўнага Савету Аляксандра Калодкі, назваўшы яго, у прыватнасьці, заснавальнікам банку «Комплекс» і кіраўніком размеркаваньня фондаў былой вайсковай нафтабазы ў Сьвіслачы. Праз некаторы час у судзе Ленінскага раёну Горадні зьявіўся іск сп.Калодкі да гарадзенскага тэлерадыёаб'яднаньня і да сябра «Очищения» Андрэя Лосева. Ісьцец запатрабаваў прабачэньня за ўзгаданыя вышэй факты, якія абражаюць яго гонар і годнасьць, бо на самой справе, як дзяржаўны служачы, сп.Калодка, ня меў права займацца камерцыйнай дзейнасьцю. На думку сп.Калодкі, названыя факты паўплывалі і на тое, што ён вымушаны быў зьмяніць месца працы (сёньня Аляксандр Калодка ўзначальвае гарадзенскую нафтабазу).

Судовая справа пачалася толькі з чацьвёртай спробы, 1 лютага. Прычым пры ўдзеле перакладчыка з беларускай мовы на расейскую, бо адказчык з боку тэлерадыёаб'яднаньня Валеры Задаля гаварыў па-беларуску. Дарэчы, беспадстаўнасьць абвінавачваньняў Аляксандра Калодкі ў адрас тэлебачаньня была зразумелай з самага пачатку суда. Перадача ішла ў прамым эфіры і, згодна дзейнічаўшаму ў тыя часы заканадаўству, журналіст за словы ўдзельнікаў перадачы адказнасьці ня нёс. Таму Валеры Задаля іск да тэлебачаньня не прызнаў.

Не прызнаў яго і Андрэй Лосеў - былы, дарэчы, намесьнік старшыні Ленінскага райвыканкаму. Аднак даказаць суду дакументальна факт удзелу Аляксандра Калодкі як фізічнай асобы ў заснаваньні «Комплексбанку» сябру «Очищения» не ўдалося. Не знайшоў пацьверджаньня і названы ў перадачы факт «попадания в ведение Колодки» вайсковай нафтабазы ў Сьвіслачы. На самой справе гэтая база трапіла ў распараджэньне міністэрства абароны (па словах Лосева -дзякуючы ўзьнятаму «Очищением» шуму) і сп.Калодка да разьмеркаваньня яе фондаў дачыненьня ня меў.

2 лютага суд прыняў рашэньне задаволіць іск Аляксандра Калодкі ў дачыненьні Андрэя Лосева і абавязаць апошняга прынесьці праз сродкі масавай інфармацыі прабачэньні.

Гэтай справе можна было б і не надаваць столькі ўвагі, калі б не адна акалічнасьць. За сьпінамі асноўных удзельнікаў працэсу праглядваліся пэўныя магутныя сілы: з аднаго боку - старая партыйна-гаспадарчая наменклатура, зьвязаная дзесяткамі гадоў сумеснай працы і агульных інтарэсаў, а з другога - прэзідэнцкія «апрычнікі», выконваючы сацыяльны заказ на «адсечаныя галовы» дзеля «усеагульнага дабрабыту» і ўласнай кар'еры. А таму лічыць гэтую справу скончанай пакуль рана, бо размова ідзе не пра абразу гонару канкрэтных людзей, а пра годнасьць пабудаванай намі сістэмы, у якой падман, паклёп ды здрада сталі звыклай зьявай.

**Вітаўт РУДНІК.**

## МАРА ЛУКАШЭНКІ: БЕЗ СУДА І СЬЛЕДЗТВА.

**Згодна артыкула 6 канстытуцыі «Дзяржава грунтуецца па прынцыпе падзелу ўладаў: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя: яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго». Аднак прынцып падзелу ўладаў, сьвяшчэнны і непарушны для іншых краін, на Беларусі не выконваецца.**

Калі раней галоўным «ворагам народу» і «дэструктыўным элементам» для Прэзідэнта Лукашэнкі ў яго імкненьні да абсалютнай улады быў Вярхоўны Савет, то потым, спакваля ягонае месца заняў Канстытуцыйны суд. Нічога дзіўнага ў гэтым не было. Дастаткова нагадаць Заключэньні па Указам Прэзідэнта NN 19; 27; N 299; N 336; N 350; N 383 ад 1995 году. Усе яны поўнасьцю ці часткова прызнаныя неадпавядаючымі Канстытуцыі.

«Крутыя наезды» з боку Прэзідэнта (пра іх падрабязна паведамлялася ў друку) не заставілі сябе чакаць. І вось ужо Канстытуцыйны суд, усьлед за Вярхоўным Саветам, падмяты і растаптаны, аб чым сьведчыць тое, што зьмены ў Закон РБ «Аб выбарах...» ад 7 верасьня 1995 году (адносна квоты ў 25 працэнтаў выбаршчыкаў) былі спачатку кваліфікаваны як канстытуцыйныя, а потым, гэтае заключэньне было дэзавуіравана.

Але ж яшчэ засталася судовая ўлада, якая шмат «непрыемнасьцяў» прынесла прэзідэнту сваёй незалежнай пазіцыяй (дастаткова ўспомніць працэс, які Лукашэнка прайграў Пазьняку). І вось ужо на сьвет зьяўляецца Указ N 520 ад 29 сьнежня 1995 году «О продлении срока полномочий народных заседателей» на паўгода. Праблема тут ня толькі ў тым, што прэзідэнт у чарговы раз перавысіў свае паўнамоцтвы і парушыў Закон, на гэты раз - «О судоустройстве и статусе судей в Республике Беларусь» і хоча дыктаваць сваю волю трэцяй галіне ўлады. Справа яшчэ і ў тым, што згодна гэтага Закона з 1 студзеня 1995 году ў краіне павінен быў быць уведзены пры разглядзе крымінальных спраў у першай інстанцыі суд прысяжных. А ў выпадку адтэрміноўкі гэтай падзеі, што фактычна і зроблена, размова ідзе ўжо пра тое, што прэзідэнт парушыў канкрэтныя правы грамадзян.

Застаецца толькі чакаць Прэзідэнцкага Указу пра тое, колькі разоў на тыдзень нам можна есьці.

**Кастусь МІРОНАЎ.**

## ЁН ЗАПАЛІЎ ПАХОДНЮ ВОЛІ

**Зварот Нацыянальнага Арганізацыйнага Камітэту па сьвяткаваньні ў Беларусі 250-х угодкаў Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касьцюшкі**

Споўнілася 250 гадоў з дня нараджэньня нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касьцюшкі.

Ён нарадзіўся ў 1746 годзе на беларускай зямлі ў фальварку Марачоўшчына Слонімскага павету Навагардзкага ваяводзтва (цяпер Івацэвіцкі раён).

Усё жыцьцё Касьцюшкі - яскравы прыклад самаадданага служэньня ідэалам Свабоды і Дэмакратыі. Восем гадоў (1776-1784) ён змагаўся ў Амерыцы за незалежнасьць ЗША, там стаў генералам, нацыянальным героем гэтай краіны. У 1792 г. Касьцюшка стаў адным з 18 іншаземцаў, якім Заканадаўчы Сход надаў годнасьць ганаровага грамадзяніна Францыі за тое, што яны «сваімі намаганьнямі і адвагай спрыялі справе свабоды і падрыхтавалі вызваленьне народаў». Імя нашчадка старажытнага беларускага шляхецкага роду з-пад мястэчка Косава стаяла ў адным шэрагу з такімі найвыдатнейшымі прадстаўнікамі народаў сьвету, як Вашынгтон, Шылер, Гамільтон і іншыя.

Вяршыняй жыцьцёвага шляху Касьцюшкі стала кіраўніцтва вызвольным паўстаньнем 1794 году на тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Летувы, барацьбы за вызваленьне народаў Вялікага Княства і Польшчы з-пад расейскага, аўстрыйскага і прускага ярма.



Гераічны водбліск паўстаньня 1794 г. і надалей асьвятляў шлях да вызваленьня народам былой Рэчы Паспалітай - беларусам, палякам, украінцам, летувісам. Мы, суайчыньнікі Касьцюшкі, ганарымся тым, што менавіта ён запаліў паходню Волі!

Гэтую выдатную дату будуць адзначаць у Польшчы, ЗША, Францыі, а таксама іншых краінах.

Нацыянальны Арганізацыйны Камітэта абвяшчае 1996 год - годам Касьцюшкі і заклікае дзяржаўныя органы, грамадзкія арганізацыі, навучальныя ўстановы, асяродкі культуры шырока адзначыць 250-я угодкі Андрэя Тадэвуша Касьцюшкі, выдатнага сына беларускай зямлі, годна ўшанаваць яго памяць.

## У ГОРАДНІ САМЫ ДАРАГІ ПРЫВАТЫЗАЦЫЙНЫ ЧЭК

Незразумелая прыватызацыя працягваецца. Многія грамадзяне і дагэтуль ня ўцямілі, што такое чэк «Маёмасьць»? Шмат хто па-ранейшаму мяркуе: калі кошт чэка каля году трымаецца на ўзроўні 1500-2500 рублёў, дык ці варта губляць час на іхналічэньне? Аднак нагадаем, што апошні тэрмін прыёму заяваў грамадзян на налічэньне чэкаў сканчаецца 30 красавіка, а выдача сертыфікатаў працягнецца да 1 ліпеня 1996 году. Для тых, у каго сертыфікаты на руках, паведамляем, што самы вялікі курс куплі чэкаў у насельніцтва адзначаны менавіта ў Горадні. Кампанія «Інвесттэхналогіі» набывае іх па 2 тысячы 300 рублёў. Для параўнаньня: у сталіцы курс ня вышэй за 2 тысячы, у Віцебску - 1400 рублёў за чэк. Аднак да наміналу ў 35 тысячаў яшчэ далёка. Тым больш цяжка знайсьці куды з выгадай для сябе можна ўкласьці гэтыя чэкі. Складаецца ўражаньне, што хтосьці «вельмі ўдала» кіруе працэсам.

**Іван Пекарчык**

## СЕЛЯНІН МОЦНЫ ГАСПАДАРКАЙ

У Суботнікаўскім сельсавеце праведзены перапіс жывёлы ў асабістых гаспадарках вяскоўцаў. У той час, як у калгасах пагалоўе жывёлы стала зьніжаецца, колькасьць кароў на людзкіх падворках павялічылася на 43 галавы, коней - у два разы, пагалоўе сьвіней - таксама амаль падвоілася. Відавочна, у Суботніках добра засвоілі, што спадзявацца трэба толькі на сябе.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

## «ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ НЕ ЗАБАРАНЯЮЦЬ ВУЧЫЦЦА НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ»

Амаль усе рэспубліканскія газеты абляцела паведамленьне, што дэпутат-камуніст Валерый Шчукін выступіў на сесіі Вярхоўнага Савету з запытам да прэм'ер-міністра, у якім абараняў правы грамадзян на вывучаньне беларускай мовы. На жаль, у новым парламанце адзінкі гавораць па-беларуску. Можна ўспомніць, што пастаянна выступаюць на роднай мове толькі Мячэслаў Грыб, Пятро Краўчанка ды Павел Знавец. Некаторыя, як Генадзь Карпенка, Аляксандр Дабравольскі, выступаюць так толькі ў асобных выпадках. Пытаньні беларускай мовы непапулярныя, многія баяцца ўздымаць іх. Нават дэмакраты, якія ставяць сваёй задачай адраджэньне роднай мовы, асьцерагаюцца гаварыць на ёй, каб не згубіць пры галасаваньні галасоў.

А тут камуніст, хоць і па-расейску, але абараняе беларускую мову. Выступ Валерыя Шчукіна быў актуальным. Дэпутат зазначыў, што згодна з законам аб Адукацыі ў якасьці асноўнай мовы выхаваньня ў школах і дзіцячых садках устанаўліваецца беларуская. І гэты закон выконваўся на працягу чатырох гадоў. Але мінулай восеньню Міністэрства адукацыі і навукі асноўнай мовай навучаньня зрабіла расейскую. Больш таго, на расейскую мову насільна пераведзены другія і трэція класы, якія вучыліся на беларускай. Міністэрства спасылаецца на вынікі рэферэндуму. Але рэферэндум пацьвердзіў канстытуцыйнае права навучацца на расейскай мове, зазначыў Шчукін, але не забараніў усім жадаючым працягваць ці пачынаць вучыцца на беларускай.

Міністэрства, працягваў дэпутат, павінна было вырашыць пытаньні фінансаваньня па адкрыцьці рускамоўных класаў. Але праблему вырашылі іншым шляхам — перакрылі фінансаваньне беларускіх класаў. Усіх паставілі перад фактам, што дзеці пераводзяцца ў расейскамоўныя класы, а нязгодных бацькоў выставілі за дзьверы. Больш таго, забаранілі адміністрацыям школ і аддзелам асьветы агітаваць за навучаньне дзяцей на роднай мове. Шчукін задаў прэм'ер-міністру чатыры пытаньні, у тым ліку і аб тым, якія меры будуць прыняты да чыноўнікаў, што парушылі Канстытуцыю і закон.

Карэспандэнт «Пагоні» **Уладзімір Семянцоў** задаў некалькі пытаньняў дэпутату **Валерыю Шчукіну.**

***— Валерый Мікалаевіч, чым быў выкліканы ваш выступ? Некаторыя сьцьвярджаюць, што гэта была спроба набраць ачкі?***

— А чым была выклікана прапанова камуністаў правесьці выбары ў тых акругах, дзе дэпутаты не абраны? Наша фракцыя цяпер мае трывалыя пазіцыі, і навошта нам рызыкаваць? У абодвух выпадках парушаецца Канстытуцыя. А гэтага нельга дапускаць. А тое, што аб праблемах беларускай мовы гаварыў камуніст, на мой погляд, ня так ужо і важна. Галоўнае, каб усе пытаньні вырашаліся.

***— Вы падкрэсьліваеце, што зьяўляецеся грамадзянінам СССР. А ў Вярхоўным Савеце ходзіце ў беларускай нацыянальнай кашулі?***

— Так, я выступаю за аб'яднаньне краін, што ўваходзілі ў склад СССР. Але чаму я павінен адракацца ад Беларусі? Гэта мая Радзіма, тут мяне выбралі дэпутатам. Я ня супраць нацыянальнага адраджэньня. У маей выбарчай акрузе у Полацку нямала жыхароў, якія жадаюць размаўляць па-беларуску, якія душой хвараюць за нацыянальнае адраджэньне. І ім трэба даць магчымасьці выкарыстаць свае правы, якія, дарэчы, замацаваны Канстытуцыяй. Але многія жадаюць размаўляць і вучыцца на расейскай мове — ім таксама трэба даць магчымасьці для гэтага.

Мы, камуністы, хочам дабівацца такога. Ня трэба думаць, што мы нейкія адыёзныя асобы. Наша фракцыя гатова супрацоўнічаць з усімі, у тым ліку і з прадстаўнікамі Беларускага Народнага Фронту. Навошта нам баяцца БНФ? Мы ж жывем у адной краіне, на адной зямлі. І вельмі рады, што пакуль нашай фракцыі ў Вярхоўным Савеце ўдаецца знаходзіць паразуменьне ня толькі з аграрыямі, але і з ліберaламі, сацыял-дэмакратамі.

***—Валерый Мікалаевіч, вы жывяце ў Менску, працавалі ў Заслаўі, а дэпутатам сталі ў Полацку...***

— Я ў мінулым быў ваенным маракам. Затым працаваў простым рабочым, будаваў газаправоды. Адзін з такіх газаправодаў праклаўдаў у Полацку, там і выставіў сваю кандыдатуру на выбарах. Сапернічаў з многімі вядомымі людзьмі — дэпутатам былога скліканьня Уладзімірам Цялежнікавым, журналісткай Ларысай Малашэвай... Але людзі абралі мяне...

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КАЎБАС

Днямі ў Карэлічах адбылася прэзентацыя прадукцыі мяснога цэха, які ўтвораны на базе Карэліцкага каўбаснага цэха славацкімі прадпрымальнікамі. Са славацкага боку на яе прыбылі Генеральны консул Славацкай Рэспублікі Іжа Пачыятак, першы сакратар, загадчык гандлёвым аддзелам консульства Штэфан Лукавіны, дырэктар фірмы «Мясаспол» Ян Даніш. У цэхе частка абсталяваньня славацкая, частка - наша. Ужо сёньня гатовыя да рэалізацыі 10 гатункаў каўбас, у перспектыве асартымент прадукцыі цэха дасягне 60 гатункаў. Сваю выгаду славакі зьбіраюцца атрымаць з высокіх аб'ёмаў рэалізацыі па зьніжаных цэнах. Каля 80 працэнтаў прадукцыі пойдзе на Менск.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

 



# На тыдзень

## *Пятніца, 16 лютага*

### Белорусское телевидение

**7.30** Утренний коктейль. **7.50** Экономикст. **8.00** Новости. **8.15** «Живая дерева душа». Док. фильм. **8.35** «Вокально-инструментальный ансамбль «Оризонт». Фильм-концерт. **9.00** ТВ - школе. Белорусская литература. 10-й класс. К.Крапива и его драматургия. **9.40** «Вестгейт». Телесериал(США). **10.35** Мультфильм. **10.45** «Умные вещи». Худ.фильм. 2-я серия. **11.50** «Светит, да не греет». Фильм-спектакль. **15.00** Новости. **15.15** «И слышится Отечества волнующее слово...» Док.фильм. **15.35** «Телебом» на фестивале «Хали-Хало» в Новополоцке. **16.20** Студия «Колыбельная». «Все дело в шляпе». Развлекательно-познавательная игра-викторина для малышей. **16.50** Творцы. Прозаик Адольф Воронович. **17.20** «Крок». Провинция. Лидский район. **17.50** Музыкальный антракт. **18.00** «Полоцкая печать». Киноочерк. **18.10** Игра в куклы. **18.25** Экономикст. **18.35** «Трижды один». Музыкальная передача MTV. **18.50** Новости (с сурдопереводом). **19.05** «Международный курьер». События, факты, комментарии. **19.40** «Вестгейт». Телесериал. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.55** Музыкальный антракт. **22.05** «Сто тысяч долларов на солнце». Худ.фильм. 2-я серия. **23.20** Концертный сезон. Иосиф Кобзон в Минске. **0.10** Новости. **0.25** Акколада. Музыкально-развлекательная программа. **ГРОДНО: 18.00** Дневник Принеманья. **18.10** Только по пятницам.

### ОРТ

**5.00** Телеутро **8.00** Новости **8.15** «Секрет тропиканки». **9.05** «Один на один» **9.45** Играй, гармонь! **10.15** «Сестрица Аленушка и братец Иванушка». Мультфильм **10.25** Пока все дома **11.00** Новости (с сурдопереводом) **11.10** В эфире телерадиокомпания «Мир». «От пятницы до пятницы. Занимательные сюжеты из стран Содружества» **11.50** Ирина Печерникова и Иннокентий Смоктуновский в фильме «Первая любовь» **13.10** «Т.С.Н.» («Телевизионная служба новостей») **14.00** Новости (с сурдопереводом) **14.20** «Драконы подземелий». **14.40** «Для всех поколений». Агния Барто **15.05** Фильм-сказка «Ослиная шкура» **16.30** Семь дней спорта **17.00** Новости **17.20** «Секрет тропиканки». **18.10** Дикое поле **18.25** Человек и закон **18.55** Поле чудес **19.45** «Спокойной ночи, малыши!» **19.55** Реклама **20.00** Время **20.35** Реклама **20.45** «Детективное агентство «Лунный свет». Сериал **21.40** Взгляд **22.25** Новости **22.35** Ночной кинозал. Романтический триллер «Дом на холме» **23.05** Семь дней спорта **0.35** «Благочестивая Марта». Телефильм. 1-я и 2-я серии

### Канал «Россия»

**6.30** Время деловых людей. **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** Требуются...требуются... **7.30** «Что день грядущий...» **7.35** Ритмика. **7.50** Всего понемногу. **8.40** Телегазета. **8.45** Крестьянский вопрос. **9.05** «Санта-Барбара». Худ.фильм. **10.20** Милицейская хроника. **10.30** Торговый дом. «Ле Монти». **10.45** Мульти-пульти. **11.15** Новая линия. **15.05** Там-там новости. **15.20** Праздник каждый день. **15.30** Продленка. **15.50** Месяцеслов. **16.20** Танц-экспресс. **16.35** Дисней по пятницам. «Отважные сердца не разбиваются». Худ.фильм. **18.10** Мульти-пульти. **18.25** Правительственные будни. **19.25** Подробности. **19.35** «Санта-Барбара». Худ. фильм. **20.30** Анализы недели. **21.10** «К-2» представляет: А.Джигарханян, А.Ромашин, М.Глузский в программе «Перпендикулярное кино». **22.30** Река времени. **22.35** Автомиг. **22.40** Музыка всех поколений. **23.10** «Шляпа». Худ.фильм.

### Санкт-Петербург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Информ ТВ. **12.10** «Гром в раю». Худ.фильм. **12.55, 13.40, 17.05** Музыкальный момент. **13.00** Скорая помощь. **13.30** Советы садоводам. **13.45** «Экология для всех». **14.40** И.-С. Бах. «Страсти по кофе». Музыкальный телеспектакль. **15.10** Телеблиц. **15.15** Стиль жизни. **15.40** «Немецкая волна». **16.00** «Старое танго». **16.20** Детское ТВ. «Сказка за сказкой». **17.10** Показывает Ленинградская областная телекомпания. **18.10** Большой фестиваль. **18.50** Спортивные новости. **18.55** «Гром в раю». Худ.фильм. **19.45** Телеслужба безопасности. **19.55** «Чудо волков». Худ. фильм (Франция). **22.00** Спорт, спорт, спорт... **22.10** День рождения. **22.20** «Парад парадов». Музыкальное шоу. **23.00** «Макс, любовь моя». Худ. фильм (Франция).

### Польское телевидение

#### Программа 1

**07 00** Кофе или чай? **08 45** Беседа. **09 00** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **09 30** Братство игр и приключений. **10 00** Новости. **10 10** Мама и я. **10 25** Дошкольники дома. **11 00** Сериал пр-ва США. **11 45** Музыкальная программа. **12 00** Сделай как мы. **12 15** Надежда. **12 30** Под чертой. **12 50** Спасти от забытья. **13 00** Новости. **13 10** Агробизнес. **13 15** Сельскохозяйственная программа. **13 45** Тележурнал. **14 05** Школа. **14 20** Идолы? **14 45** Тележурнал. **15 15** Новая природа. **15 30** Если не Оксфорд, то что? **15 50** Программа дня. **16 00** Музыкальная программа. **16 30** «Мода на успех». Сериал пр-ва США. **17 00** Программа для молодежи. **17 25** Программа для детей. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Школа жизни. **18 30** Еженедельник культуры. **18 45** Журнал потребителя. **19 05** Свидание втемную. **19 50** Спортивная программа. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Горячий товар». Комедия пр-ва США. **22 50** Пульс дня. **23 10** Четверть часа. **23 30** Тележурнал. **00 10** Новости. **00 30** Около полуночи. **00 45** «Давка». Фильм пр-ва США. **02 45** Еженедельник культуры.

#### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Спорт. **08 15** Утренний гость. **08 50** Академия здоровья. **09 00** Местная программа. **09 30** «Полный дом». Сериал пр-ва США. **10 00** Трансляция заседаний сейма. **14 00** Панорама. **15 55** Приветствие. **16 00** Мультсериал. **16 25** Академия здоровья. **16 35** Музыкальная программа. **17 00** Спортивная студия. **18 00** Развлекательная программа. **18 30** «Полный дом». Сериал пр-ва США. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **20 05** Телетурнир. **20 30** Программа для детей. **21 00** Спортивная студия. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 40** Программа кабаре. **23 45** «Павшие ангелы». Фильм пр-ва США. **00 15** «Женщины Голивуда». Документальный сериал. **01 05** Панорама. **01 10** Интервью со звездой. **01 15** Концерт.

## *Субота, 17 лютага*

### Белорусское телевидение

**8.00** Новости. **8.15** Уроки Н.Новожиловой. **8.45** Созвучие. Передача из Бреста. **9.05** Здоровье. Тележурнал. **9.35** Все про все. **10.00** «Ералаш». Юмористический журнал. **10.20** Европейская двадцатка. Музыкальная программа MTV. **11.05** «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал (Бразилия). **12.05** Гурман. Белорусская кухня и кухни народов мира. **12.25** Мир природы и увлечений. **13.15** «Белвидеоцентр» представляет: «Иван Чигринов». Док.фильм. **13.45** Многоголосие. **14.20** Коллаж. Программа для деловых людей. **14.45** Белорусский дом. Художественно-публицистическая программа. **15.25** К 25-летию Государственного театра музыкальной комедии Беларуси. Торжественыый вечер. **16.25** Мультфильм. **16.35** «Крок». КВН. Открытый чемпионат Беларуси. **17.25** «Зорная ростань». Телеконкурс молодых артистов эстрады. Брестско-Могилевский тур. **18.05** Галерея. Театровед Владимир Нефед. Авторская программа Т.Егоровой. **18.40** «Любить человека». Худ.фильм. 1-я серия. **20.05** Банка комиксов. **20.40** Колыбельная. **21.00** Новости. **21.45** «Случайная жертва». Худ.фильм (США). **23.25** Видимо-невидимо.

### ОРТ

**6.45** Телеканал «Подъем!» **7.45** Слово пастыря. Митрополит Кирилл **8.00** Новости **8.10** Телеканал «Подъем!» (Продолжение) **9.30** «Не зевай!» **10.00** Утренняя почта **10.35** Смак **10.50** Играет Игнат Солженицын **11.35** Василий Шукшин в фильме Марлена Хуциева «Два Федора». **13.05** Звезды мирового спорта в Москве. Репортаж с соревнований по легкой атлетике «Русская зима» **14.00** Новости (с сурдопереводом) **14.20** Автомобиль и я **14.40** В мире животных **15.20** Америка с М.Таратутой **15.50** Бомонд **16.10** Умники и умницы **17.00** Новости **17.20** «Золотая серия». Год 1980-й. «Тегеран-43». 1-я и 2-я серии **19.55** Реклама **20.00** Время **20.35** Реклама **20.45** Детективное агентство «Лунный свет». Сериал **21.40** Брэйн ринг **22.30** Новости **22.40** Коллекция Первого канала. Любовный треугольник Г.Миллера в фильме «Генри и Джун» **0.55** «Игра хамелеона». Телефильм. 1-я и 2-я серии

### Канал «Россия»

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** «Что день грядущий...» **7.30** «Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима». **7.45** «Одиссея». Телесериал. **8.10** Международный турнир по фигурному катанию «Столетие на льду». **9.30** Парламентская неделя. **10.15** До Москвы - далеко. **11.00, 22.30** Служба 299-00-00. **11.15** «Человек меняет кожу, или Жизнь и необычайные превращения господина Цзян Цзинго». Премьера док.фильма. Часть 1-я. **12.10** «Поэт в России - больше, чем поэт». **12.40** Караоке по-русски. **13.20** Де факто. **13.35** «Эмили». Телефильм. **14.30** Сигнальный экземпляр. **14.40** Большой хоккей. **15.20** Пилигрим. **16.05** Империя игр.»Гладиаторы». **16.55** Международный турнир по фигурному катанию «Столетие на льду». **17.55** Кино с продолжением. «Петербургские тайны». **19.25** Субботний вечер с Романом Виктюком. **21.00** Аншлаг и К. **22.45** Река времени. **22.50** Автомиг. **22.55** Программа «А». **23.55** В гостях у «Киношока».

### Санкт-Петербург

**8.25** «Актуально-насущно». **9.00** Стиль жизни. **9.15** «Жак Риветт». Телефильм цикла «Кино нашего времени» (Франция). **10.25** День рождения. **10.30** Сумма сумарум. **11.10** Ток-шоу «Наобум». **11.40** «Чудо волков». Худ.фильм(Франция). **13.30** Международный телефестиваль «Невские ассаблеи в Царском селе». **15.00** Театральная провинция? **15.30, 18.30, 21.00** Информ ТВ. **15.40** «Пять ноктюрнов о нежности». Телеспектакль. **16.20** Студия «Вообрази». **16.35** «Антре». Цирковая программа. **17.05** Телеканал «Не хочешь - не смотри». **17.50** Теле-граф. **18.10** Большой фестиваль. **18.55** Спортивная программа. **20.25** «Мебель с доставкой». Криминальная история сериала «Уик-энд с детективом». **21.20** «Исповедь содержанки». Премьера худ.фильма (Россия). **22.45** Музыкальный рай.

### Польское телевидение

#### Программа 1

**08 00** Прошу ответить. **08 15** Из Польши. **08 30** Все об огороде. **08 55** Агролиния. **09 30** «Возвращение в будущее». Сериал пр-ва США. **09 55** Программа дня. **10 00** Новости. **10 10** «Зерно». Программа католической редакции. **10 35** Программа для детей и молодежи. **11 35** Документальный фильм. **12 25** Спортивная студия. **13 00** Новости. **13 10** Страна. **13 35** Телеконцерт пожеланий. **14 00** Животные мира. **14 35** Мультфильмы У. Диснея. **15 50** Телетеатр. **16 50** Тележурнал. **17 10** «Билл Гоусби шоу». Сериал пр-ва США. **17 35** Тележурнал. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 25** Телетурнир. **18 55** Тележурнал. **19 05** «День за днем». Сериал пр-ва США. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Убегающие монашки». Комедия пр-ва Англии. **22 40** Развлекательная программа. **00 00** Новости. **00 15** Спортивная суббота. **01 00** «Человек со шрамом». Фильм пр-ва США. **02 15** Чемпионат танцевальных пар. **02 45** «Цена правды». Триллер пр-ва Англии.

#### Программа 2

**08 00** Панорама. **08 10** Концерт. **08 30** Такие одинокие. **08 50** Уроки языка глухонемых. **09 00** Мультсериал. **09 25** Приветствие. **09 30** Местная программа. **10 30** Программа национальных меньшинств. **11 00** Жизнь рядом с нами. **11 30** Портрет поляков. **12 00** Час с Ганной Берберой. **13 00** Художественный фильм. **14 35** Золотая Марыля. **15 05** События недели. **15 35** Ребусы. **16 00** Телетурнир. **16 50** «Фитнесс клуб». Сериал пр-ва Польши. **17 15** Музыкальные встречи. **18 05** Сериал пр-ва США. **18 55** Розыгрыш лото. **19 00** Панорама. **19 10** Местная программа. **19 30** Семь дней - мир. **20 05** Телетурнир. **20 35** Сумасшедшие цифры. **21 00** Звезды тех лет. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 35** Слово на воскресенье. **22 40** Музыкальный журнал. **23 15** «В пригороде». Фильм пр-ва США. **01 00** Панорама. **01 05** Год за годом.

## *Нядзеля, 18 лютага*

### Белорусское телевидение

**8.00** «Поздний ребенок». Худ. фильм. **9.05** Футбол. Турция - Беларусь. Послесловие к матчу. **9.35** «Постижение тайны». Док. фильм. **9.55** «Конон». Мультсериал. **10.20** «Телебом». Почтовый ящик. **10.40** О шахматах и шахматистах. **11.10** Лучшие хиты MTV. **11.40** Туроб»ектив. Путешествия, встречи, отдых. **12.00** Все нормально, мама! Развлекательная программа. **12.30** «Лада ОМС» представляет: «Моя любовь, моя печаль». Телесериал (Бразилия). **13.30** Мультиклуб. **14.40** Студия «Окно». «Жили-были...» **15.00** Победитель. **15.20** Авто-парк. **15.35** Творческое объединение «Телефильм». «Маятник». **16.30** «Дикий юг». Научно-популярный сериал. **17.00** Телевизионный АРТ-клуб. «Страна, имя которой - фестиваль...» **17.35** Гости в дом. Египетские зарисовки. **17.45** Бездельник. **18.15** «Любить человека». Худ.фильм. 2-я серия. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** Новости-ТВ. **21.05** Ток-шоу «Карамболь». **21.40** «Синема». «Жозефа». Худ.фильм (Франция). **23.50** «Нов и К» представляет: «Бархатный сезон». Музыкально-развлекательная программа.

### ОРТ

**6.50** Тираж «Спортлото» **7.00** Телеканал «Подъем!» **8.00** Новости **8.10** Телеканал «Подъем!» (Продолжение) **9.25** Пока все дома **10.00** Утренняя звезда **10.45** Из первых рук **11.00** Служу России! «Армейский магазин» **11.30** «Огромное небо». Песни Оскара Фельцмана **12.00** Провинциальные истории. Пенза **12.25** Очевидное-невероятное **12.55** Смехопанорама. Ведущий-Е.Петросян **13.30** Приключенческий сериал «Пираты» **14.00** Новости (с сурдопереводом) **14.20** «Тоска» Дж.Пуччини в цикле «Оперные истории» **15.15** Клуб путешественников **16.00** Как-то раз **16.15** Мультфейерверк: «Легенды острова сокровищ», «Приключения Вуди и его друзей» **17.00** Новости **17.20** Футбольное обозрение **17.50** «Парижские тайны. Жан Маре». Авторская программа Э.Рязанова **18.35** Веселые истории в журнале «Ералаш» **19.00** Кинозвезды и полицейские в комедии «Напролом» **20.55** Реклама **21.00** Воскресенье **21.45** Реклама **22.00** «Детективное агентство «Лунный свет». **22.55** Новости **23.05** Любовь с первого взгляда **23.40** «Трое в лодке, не считая собаки». Телефильм. 1-я и 2-я серии

### Канал «Россия»

**7.00, 13.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** «Что день грядущий...» **7.30** Теремок. **7.45** Первый дубль. **8.00** Мировая деревня. **8.30** В мире авто- и мотоспорта. **9.00** Доброе утро, Европа. **9.30** Аты-баты... **10.00** Вести в одиннадцать. **10.15** Русское лото. **10.55** Карьера. **11.25** «Человек меняет кожу, или Жизнь и необычайные превращения товарища Елизарова». Премьера док.фильма. Часть 2-я. **12.20** Футбол без границ. **13.20** Не вырубить... **13.35** «Эмили». Телефильм. **14.30** Книжная лавка. **15.00** Мульти-пульти. **15.10** Горячая десятка. **16.05** XX век в кадре и за кадром. Юрий Яковлев. **17.00** Волшебный мир Диснея. «Чокнутый», «Винни Пух». **17.55** «Снимается кино...» **18.00** Колесо истории. **18.50** На соискание премии «ТЭФИ-96». «Волшебный фонарь Е.Гинзбурга». **19.25** Международный турнир по фигурному катанию «Столетие на льду». Показательные выступления. **21.10** Телекросс. **21.25** У Ксюши. **22.30** Служба 299-00-00. **22.45** Река времени. **22.50** Автомиг. **22.55** Парижские встречи. **23.50** Лучшие игры НБА.

### Санкт-Петербург

**8.00** Это ваш день. **8.25** Целительное слово. **9.00** Стиль жизни. **9.15, 10.40, 15.25** Музыкальный момент. **9.20** «Когда я стану великаном». Худ.фильм. **10.45** День рождения. **10.50** Храм. **11.20** Слово - депутатам. **11.50** Хит-парад «Телекомпакта». **13.00** Страсти-мордасти. **13.15** Классическое шоу из Мариинского театра. **14.25** Детское ТВ. Золотой ключ. **14.45** Бросайка. **15.30** Мультфильм для взрослых. **15.40** «Посмотрим». Анонс телепрограмм. **15.55** Чемпионат Италии по футболу. **18.00** Пой с нами. **18.30** Информ ТВ. **18.50** Ура! Комедия.»Дежа-Вю». Худ.фильм (Украина). **20.35** Телешансон. **21.05** Международное обозрение. **21.30** «Ноу смокинг». **22.15** «Снайпер». Премьера худ.фильма (Украина).

### Польское телевидение

#### Программа 1

**08 00** Сельское хозяйство в мире. **08 15** Польские танцы. **08 35** Сельскохозяйственная программа. **09 05** Музыкальная программа. **09 35** «Дорога в Авонлеа». Сериал пр-ва Канады. **10 25** Телеутро. **10 50** Музыкальная программа для детей. **11 05** В старом кино. **12 25** Спортивная студия. **13 00** Трансляция из Ватикана. **13 20** Публицистическая программа. **14 00** Новости. **14 10** Неделя. **14 40** Перец и ваниль. **15 15** «Юг - Север». Сериал пр-ва США. **16 05** Программа для родителей. **17 20** Духовная культура народа. **17 50** Календарь XX века. **18 00** Телеэкспресс. **18 20** Стоит посмеяться. **18 50** Тележурнал. **19 10** «Доктор Квинн». Сериал пр-ва США. **20 00** Вечеринка. **20 30** Новости. **21 10** «Матери, жены, любовницы». Сериал пр-ва Польши. **22 35** Обычные - необычные. **23 30** Спортивное воскресенье. **23 55** Правительственный журнал. **00 20** Близкие встречи. **00 50** «Осторожность и таблетка». Комедия пр-ва Англии. **02 25** Вокруг большой сцены.

#### Программа 2

**07 30** Эхо недели. **08 00** Фильм для глухих. **09 20** Слово на воскресенье. **09 30** Местная программа. **10 30** Приветствие. **10 35** Политический комментарий. **11 00** Отчизна. **11 15** Программа для детей. **12 15** Театр для детей. **12 50** «Все о Еве». Фильм пр-ва США. **15 15** Путешествие во времени и пространстве. **16 10** Телетурнир. **16 35** Катехизм. **17 00** Кулинарный журнал. **18 00** «Беверли Хилз». Сериал пр-ва США. **18 50** Вторая программа. **19 00** Местная программа. **19 10** Юбилейная программа. **19 25** Приглашение к танцу. **20 00** Телетурнир. **20 35** Мультсериал. **21 00** Час откровения. **22 00** Панорама. **22 30** Спортивная программа. **22 40** «Смерть в баре». Фильм пр-ва Англии. **00 20** Бестселлеры второй программы. **01 05** Панорама. **01 10** Джаз-журнал.



**«РОК СУПРАЦЬ НАСІЛЬЛЯ»**

Беларускі Дэмакратычны Маладзёжны Альянс імя Вітаўта Вялікага для правядзеньня імпрэзы «Рок супраць насільля» шукае фундатараў. Мэта мерапрыемства - прыцягнуць моладзь з вуліц да акцыі пратэсту супраць пануючага ў грамадзтве насільля.

Імпрэза прызначана на 20 лютага. Пры наяўнасьці фундатараў уваход на мерапрыемства будзе вольны.

Тэлефон для зацікаўленных - ***5-84-56***, спытаць **Віталіка**

**АРГКАМІТЭТ**





**Кінатэатры**

*Тэлефоны аўтаадказчыкаў:*

| | |
|---|---|
| "УСХОД" | -47-81-29 |
| "ГРОДНА" | -45-28-12 |
| "ІМЯ ПУШКІНА" | - 2-22-44 |
| "КОСМАС" | -44-01-61 |
| "ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА" | -45-29-08 |
| "КАСТРЫЧНІК" | - 2-20-74 |

 

